● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

18 ліпеня 1998 г. субота, № 143 (23494)



# ЗВЯЗДА

## Падатковыя органы ўзяліся за фірмы-аднадзёнкі

**Дзяржаўны падатковы камітэт Рэспублікі Беларусь у рамках выканання распараджэння прэзідэнта ад 21 сакавіка «Аб стварэнні рэспубліканскай камісіі па вывучэнню прычын негатыўных з'яў, што ўзніклі ў сакавіку 1998 г. у эканоміцы» пачаў праверкі прадпрыемстваў, якія мелі дачыненне да аказання нябанкаўскіх фінансавых паслуг, так званых фірмаў-аднадзёнак.**

У цяперашні час праводзяцца падатковыя праверкі 59 арганізацый, толькі 18 з якіх, згодна з прамежкавымі актамі праверкі, прад'яўлена да аплаты падаткаў і фінансавых санкцый на суму, якая перавышае 1 трыльён рублёў.

Дзяржаўны падатковы камітэт звяртае ўвагу на выпадкі рэгістрацыі, якія пачасціліся, так званых фірмаў-аднадзёнак і папярэджвае: з тым, каб пазбегнуць адмоўных наступстваў, будзьце асцярожнымі і ўважлівымі пры заключэнні здзелак з новымі фірмамі, або фірмамі, якія выклікаюць у вас недавер.

Пра гэта паведаміў прэсцэнтр Дзяржаўнага падатковага камітэта.

## Дызентэрыя «прапісалася» у Баранавічах

**У раённым цэнтры Баранавічы спецыялістамі зафіксавана ўспышка дызентэрыі. Па стану на 15 ліпеня ў горадзе зарэгістраваны 122 захварэўшыя, 101 з якіх шпіталізаваны. У 49 пацярпелых ужо бактэрыяльна пацверджана наяўнасць дызентэрыі Флекснера і ў аднаго — сальманелёз.**

Як паведаміў «Звяздзе» галоўны эпідэміёлаг Міністэрства аховы здароўя РБ Анатоль Кажамякін, захварэўшыя паступаюць у інфекцыйныя аддзяленні бальніц з усіх раёнаў горада, і трэцюю частку з іх складаюць дзеці. Пакуль ні з цяжкімі выпадкамі працякання хваробы, ні тым больш з лятальным яе зыходам медыкам сутыкнуцца не даводзілася. Зараз у горадзе працуе камісія са спецыялістаў абласнога і рэспубліканскага цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі, якія займаюцца адначасова лакалізацыяй успышкі дызентэрыі і пошукам крыніцы яе распаўсюджвання. Пакуль існуюць дзве версіі развіцця падзей: ці то інфекцыя распаўсюдзілася па гораду разам з прадуктамі харчавання, як гэта было восенню ў Нясвіжы, ці то крыніцай яе стала пітная вада (у Гомелі мінулым летам, нагадаем, вірус серознага менінгіту быў выяўлены менавіта ў гарадскім водазаборы). У сувязі з гэтым зараз у горадзе праводзіцца абследаванне як работнікаў малочнага завода і прадпрыемстваў гандлю, так і прадпрыемстваў гарадской камунальнай гаспадаркі. На момант падрыхтоўкі інфармацыі тых, якія «паклалі ў ложак» увесь горад, сярод іх не было выяўлена.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## Пуцёўка ў жыццё: школьнікі становяцца рэкецірамі

**Раніцай 12 ліпеня ў Лідскі РАУС звярнуўся адзін з урачоў мясцовай бальніцы і папрасіў абараніць ад вымагальнікаў.**

Па ягоных словах, трое невядомых з красавіка гэтага года пагражаюць фізічнай расправай сыну-школьніку ў выпадку, калі той не прынясе 5 тысяч 500 амерыканскіх долараў.

Праз некалькі дзён супрацоўнікамі крымінальнага вышуку былі затрыманы трое чалавек, якія і падазраюцца ў злачынстве. Імі аказаліся... школьнікі: з 8, 9 і 10 класаў. Праўда, розных школ.

Цяжка меркаваць, ці выканалі б яны сваю пагрозу. Але выпадкі накшталт гэтага ўжо былі. Ці не самы жахлівы — прыкладна пяцігадовай даўнасці, калі ў Мінску падлеткі забілі 3-класніка з-за... красовак.

**Міхась БЕРАСТ.**



Пад апекаю і аховаю

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## ПРЭЗІДЭНТ ПРЫНЯЎ ВІЦЭ-ПРЭМ'ЕРА

**Як паведамілі БЕЛТА з прэс-службы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 17 ліпеня 1998 г. А.Р.Лукашэнка прыняў са справаздачай намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Л.П.Козіка.**

Кіраўнік дзяржавы быў праінфармаваны аб дзейнасці дзяржаўных органаў, якія курыруе віцэ-прэм'ер урада. Прэзідэнт адзначыў недастатковую работу Міністэрства знешніх эканамічных сувязяў па паляпшэнню знешнегандлёвага балансу і ўказаў на неабходнасць павышэння яе эфектыўнасці. Пры абмеркаванні пытанняў работы Дзяржаўнага падатковага камітэта А.Р.Лукашэнка даручыў спыняць любыя спробы лабіравання інтарэсаў суб'ектаў гаспадарання, звязаныя з іх вызваленнем ад выплаты падаткаў і прадастаўленнем іншых незаконных ільгот.

Віцэ-прэм'ер далажыў таксама прэзідэнту аб рабоце ў рамках Мытнага саюза Беларусі і Расіі і аб увядзенні з 16 ліпеня гэтага года новага, уніфікаванага з расійскім Мытнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Кіраўнік дзяржавы звярнуў увагу на неабходнасць выканання ўсімі ўдзельнікамі Мытнага саюза прынятых абавязацельстваў.

У ходзе сустрэчы прэзідэнт быў праінфармаваны аб сітуацыі на спажывецкім рынку рэспублікі. А.Р.Лукашэнка ўказаў на неабходнасць пастаяннага кантролю за гэтым пытаннем і адобрыў работу ўрада па стварэнню запасаў прадуктаў харчавання і іншай сельскагаспадарчай прадукцыі. Кіраўнік дзяржавы звярнуў увагу на праблемы, звязаныя з арганізацыяй работы па забеспячэнню вучняў і студэнтаў неабходнымі таварамі для новага навучальнага года.

Былі разгледжаны і іншыя пытанні, па якіх прэзідэнт краіны даў канкрэтныя даручэнні.

**БЕЛТА.**

## ВЕТЭРАНЫ ЎДЗЯЧНЫЯ ПРЭЗІДЭНТУ ЗА КЛОПАТЫ І ПАДТРЫМКУ

**У адказ на віншаванні, атрыманыя ў Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь ад прэзідэнта нашай краіны Аляксандра Лукашэнкі, ветэраны вайны і працы працягваюць прысылаць пісьмы са словамі падзякі і падтрымкі ў адрас кіраўніка дзяржавы і яго адміністрацыі.**

Удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны жадаюць прэзідэнту моцнага здароўя і выказваюць сваю падтрымку знешне- і ўнутрыпалітычнаму курсу кіраўніцтва Беларусі.

«Шчыры Вам дзякуй, Аляксандр Рыгоравіч, за Вашы сардэчныя віншаванні, — піша пенсіянерка Эма Антонаўна Жалязніцкая. — Я галасавала за Вас і верыла, што Вы будзеце дастойным прэзідэнтам нашай Радзімы і нашага народа».

«За ўсё сваё доўгае жыццё я ніколі не адчувала з боку дзяржавы такіх клопатаў і падтрымкі, як цяпер». Гэта словы з пісьма Ганны Аляксандраўны Дзмітрыевай. «Мы, ветэраны, глыбока ўдзячныя Вам за ўсё тое, што Вы робіце для нашай краіны і яе простых грамадзян. Мы ганарымся сваім прэзідэнтам», — піша яна.

**БЕЛТА.**

## РАБОЧЫ ТЫДЗЕНЬ ПРЭЗІДЭНТА

Наступны рабочы тыдзень Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі будзе насычаны мерапрыемствамі і сустрэчамі, якія маюць важнае значэнне для сацыяльна- эканамічнага развіцця краіны.

У панядзелак намечана сустрэча кіраўніка дзяржавы са старшынёй праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Пятром Пракаповічам.

У аўторак прэзідэнт прыме Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Турэцкай Рэспублікі ў Беларусі пані Фатму Шуле Сайсал. У той жа дзень плануецца сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з кіраўніком адміністрацыі Уладзімірскай вобласці Мікалаем Віаградавым.

У сераду запланавана справаздача ў прэзідэнта краіны міністра ўнутраных спраў Валянціна Агальца. Затым Аляксандр Лукашэнка накіруецца ў Віцебск, дзе прыме ўдзел ва ўрачыстым адкрыцці Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» і выступіць са зваротам да яго ўдзельнікаў.

У чацвер адбудзецца рабочая паездка прэзідэнта краіны па Віцебскай вобласці. У яе праграме — наведванне прадпрыемстваў прамысловасці і аб'ектаў культуры.

У пятніцу кіраўнік дзяржавы заслухае справаздачу свайго паўнамоцнага прадстаўніка ў органах інтэграцыі віцэ-прэм'ера Васіля Далгалёва.

На працягу тыдня Аляксандр Лукашэнка прыме таксама вышэйшых службовых асоб дзяржавы.

**БЕЛТА.**

## УСМІХНЁМСЯ!



З манашкамі бывае весела...

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

*Ідзе ўрок біялогіі. Настаўніца тлумачыць, што сабой уяўляе мартышка. Хлопчык круціцца і не слухае яе. Яна падымае яго і папярэджвае:*

*— Ігар, не круціся, глядзі ўважліва на мяне, а то не будзеш ведаць, як выглядае мартышка.*

*Вартаўнік злавіў хлопчыка, які краў яблыкі.*

*— Нягоднік! — крычыць стары. — Я цябе зараз навучу, як красці яблыкі.*

*— Ну дзякуй, дзядуля, а то мяне ўжо трэці раз ловяць.*



Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 17 ЛІПЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 50000 | 54000 | 27700 | 29500 | 8100 | 8700 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 51500 | 56000 | 28600 | 31000 | 8250 | 8950 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 51500 | 56600 | 28500 | 31400 | 8200 | 9000 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 39800.00 | | 22258.26 | | 6400.00 | | Курс на 18.07.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.2190 | | 3.4788 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваццa ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс *(міжбанкаўскі рынак)* | 69500 | 71500 | 38896 | 40038 | 11186 | 11514 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс *(прыблізна)* | 64000 | 64500 | 35800 | 36100 | 10305 | 10380 | |

## ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ РОК-МУЗЫКІ

17 ліпеня непадалёк ад пасёлка Грудэк Беластоцкага ваяводства (Польшча) пачаўся 9-ты фестываль беларускай рок-музыкі «Басовішча». Ён арганізаваны Беларускім аб'яднаннем студэнтаў пры падтрымцы Міністэрства культуры Польшчы, радыё Беласток, газет «Ніва» і «Часопіс», Фонду Стэфана Баторыя і шэрагу польскіх фірмаў. Фестываль будзе праходзіць на пляцоўцы пад адкрытым небам. З беларускага боку ў ім прымаюць удзел папулярныя групы «Крама», «NRM», «Палац», «Кальян», а таксама гродзенскі бард Віктар Шалкевіч і іншыя выканаўцы. Фестываль завершыцца 18 ліпеня.

**Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.**

***Па традыцыі, у нядзелю, 19 ліпеня, горад металургаў Жлобін будзе адзначаць сваё прафесійнае свята. Разам з усімі пройдзе ў святочных калонах і падручны сталявара БМЗ Юрый Драздоў.***

*Аб справах і клопатах беларускіх металургаў чытайце ў сённяшнім «Звяздзе».*



## Заўтра — Дзень металурга



***11**-гадовая Оля Андрыенка з Івацэвічаў знаходзіцца пад апекаю лепшай клінікі ў Варшаве і ў яе ёсць шанц стаць здаровай. Пры дапамозе і падтрымцы Беларускага фонду «Дзецям Чарнобыля» беларускай дзяўчынцы зроблена ўжо некалькі аперацый. Мама, тата і сястрычка спадзяюцца, што Оля хутка забудзе сваю бяду.*

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## АДНА ВАКАНСІЯ — ДВОЕ БЕСПРАЦОЎНЫХ?

**Як паведамілі нам у Камітэце па занятасці насельніцтва, за першую палову 1998 года колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных у Беларусі зменшылася прыкладна ў 1,2 раза.**

Паводле даных на 1 ліпеня статус беспрацоўнага мелі 105 тысяч грамадзян нашай краіны, што адпавядае 1,87 працэнта ўсяго працаздольнага насельніцтва. Адметна, што ў той жа час на прадпрыемствах, у арганізацыях і ўстановах маецца каля 51,5 тысячы вакансій. Аднак дзеля справядлівасці варта ўсё ж адзначыць, што ў асноўным беларускім беспрацоўным могуць прапанаваць нізкакваліфікаваную і, адпаведна, малааплатную працу.

**Сяргей ГРЫБ.**

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## ВАСІЛЬ СТРАЖАЎ ЛІЧЫЦЬ, ШТО ДЗЯРЖАЎНЫЯ КАМІСІІ НА ІСПЫТАХ НЕ ПРОСТА «ПРАВЯРАЛЬШЧЫКІ», А НАЙПЕРШ — ПАМОЧНІКІ АБІТУРЫЕНТА І ВЫКЛАДЧЫКА

**УЧОРА ПАЧАЛІСЯ ЎСТУПНЫЯ ЭКЗАМЕНЫ Ў АБСАЛЮТНАЙ БОЛЬШАСЦІ БЕЛАРУСКІХ ВНУ. З ГЭТАЙ НАГОДЫ АГЛЯДАЛЬНІК «ЗВЯЗДЫ» СУСТРЭЎСЯ З МІНІСТРАМ АДУКАЦЫІ.**

**— Васіль Іванавіч, унясіце яснасць у сам графік правядзення ўступных экзаменаў. Бо недзе яны ўжо і заканчваюцца.**

— Першымі пачалі іспыты Беларускі дзяржаўны універсітэт, акадэмія музыкі і акадэмія мастацтваў. У акадэміі гэта звязана са спецыфікай, і так было заўсёды, а галоўная навучальная ўстанова сёлета дала магчымасць моладзі для «двайнога старту». Абітурыенты паспрабавалі свае сілы ва універсітэце, а калі ў некага не атрымаецца, ён яшчэ можа паспець здаць экзамены ў іншую ВНУ.

**— Ці няма тут маленькай тактычнай хітрасці — атрымаць сабе лепшых з лепшых?**

— У нас шмат цудоўна падрыхтаваных выпускнікоў школ. А прыёмныя камісіі валодаюць дастатковым вопытам для аб'ектыўнага адбору. Так што папаўненне наогул павінна быць якасным. Уступныя экзамены ў астатніх нашых «гарвардах» і «сарбонах» пачаліся ўчора з пісьмовых работ.

**— Абітурыенты жартуюць: пачалася масавая «малацьба».**

— Гэта калі малоцяць і ляцяць галовы? Я сказаў бы больш аптымістычна: пачаўся масавы конкурс ведаў. У каго іх больш, той і пераможца. Наколькі я ведаю, праходзяць экзамены ў спакойнай, абсалютна дзелавой абстаноўцы.

**— Як уплываюць на атмасферу іспытаў дзяржаўныя камісіі па ажыццяўленню кантролю за работай прыёмных камісій і правядзеннем уступных экзаменаў? Ужо адна іх прысутнасць ці не ставарае атмасферы нервознасці?**

— Такія апасенні маглі б мець пад сабой некую глебу, калі б дзейнасць такіх структур была ў навіну. Камісіі працуюць ужо чацвёрты год, да іх падобраму прывыклі. І ўсім вядомы патрабаванні, якія вылучаюцца. На пачатку гэтага тыдня прэзідэнт спецыяльна сустрэўся з членамі дзяржаўных і кіраўнікамі прыёмных камісій. Было падкрэслена, што з аднаго боку мы павінны кантраляваць працэс экзаменаў, каб дапамагчы стаць студэнтамі якраз тым, хто мае лепшыя веды. З другога — патурбавацца пра спрыяльную атмасферу для абітурыентаў. Цікавяцца абсалютна ўсім, у тым ліку забяспечанасцю інтэрнатамі, асартыментам і цэнамі ў студэнцкіх сталоўках і гэтак далей. У рэшце рэшт, дапамагаць і самім ВНУ, калі гэта патрэбна, членам прыёмных камісій у вырашэнні нейкіх аператыўных пытанняў.

**— Дарэчы, а выкладчыкі не расцэньваюць дзейнасць камісій як сведчанне недаверу? Абыходзіцца без крыўдаў?**

— Работа камісій накіравана не столькі на кантроль за асобнымі выкладчыкамі, колькі за самой сістэмай прыёму, яна павінна быць максімальна дасканалай і не даваць збояў. Што датычыцца выкладчыкаў, то мы зыходзім з таго, што яны — сумленныя людзі.

**— Але калі б усе былі безумоўна сумленнымі людзьмі, то, відаць, не спатрэбілася б такая масіраваная падтрымка ВНУ.**

— Я сказаў бы так: сумленнасць трэба і выхоўваць. Не страхам, а адказнасцю. Напамінаць людзям пра высокую меру іх асабістай адказнасці.

**— У ходзе іспытаў у трох ВНУ ці былі ўскрыты нейкія факты нядобрасумленнасці ці злоўжыванняў?**

— Толькі адзін. Але я пакуль не маю на руках дакументаў і таму ўстрымаюся ад каментарыяў.

**— Вышэй вы гаварылі пра праблему дасканаласці ключавога звяна — самой сістэмы прыёму. Наколькі яна паддаецца паляпшэнню?**

— Ведаеце, пытанне даволі складанае. Існуюць розныя погляды на вырашэнне гэтай праблемы. Я з'яўляюся прыхільнікам правядзення экзаменаў у пісьмовай форме. Адразу гэта зрабіць немагчыма, але імкнуцца трэба. У тым ліку праз так званае тэсціраванне. Сёлета мы якраз стварылі ў політэхнічнай акадэміі цэнтр тэсціравання і далі дазвол акадэміі залічваць адзнакі, атрыманыя пры тэсціраванні, у якасці вынікаў уступных экзаменаў. Але адразу магу сказаць, што ўзровень адзнакаў быў у два разы ніжэйшы, чым звычайна. Вось што значыць пісьмовая форма. Яна дае магчымасць больш аб'ектыўнага падыходу. І карыстацца ёю варта не толькі на экзаменах па матэматыцы ці мовах, але і па гісторыі, літаратуры і гэтак далей. Дадам, што нашы суседзі ў Літве ўжо таксама перайшлі да цэнтралізаванай выдачы пісьмовых работ для правядзення ўступных экзаменаў і арганізацыі адпаведнага кантролю.

**— За тры гады існавання камісіі даказалі сваю эфектыўнасць?**

— Безумоўна. Іх дзейнасць адпавядае сённяшняму дню і сённяшняму стану грамадства. Без іх было б больш парушэнняў і злоўжыванняў.

**— Скажыце, Васіль Іванавіч, гэта толькі наша праблема — краін СНД? А як яна вырашаецца ў свеце?**

— У кожнай краіне па-рознаму. Скажам, у Англіі проста прымаюць дакументы ад выпускнікоў. Пад увагу бяруць адзнакі, якія яны атрымалі ў школах. Але затое там непараўнальна больш жорсткія самі выпускныя экзамены ў школах — прымаюць настаўнікі не проста з іншых школ, а нават з іншых раёнаў краіны ў прысутнасці інспектара і толькі ў пісьмовай форме.

**— А калі нам у вырашэнні задачы падысці з іншага боку? Матэрыяльна забяспечаны выкладчык, хутчэй за ўсё, не дазволіць сабе нейкіх парушэнняў этыкі, а тым больш Крымінальнага кодэкса.**

— Прамой сувязі я не бачу. Хоць паляпшаць матэрыяльнае становішча прафесарска-выкладчыцкага саставу ВНУ, канечне ж, патрэбна. З гэтым я цалкам згодзен.

**— І апошняе пытанне. Дзейнасць камісій не прыніжае адказнасць саміх ВНУ за вынікі прыёму?**

— Ні ў якай меры. Галоўнай фігурай застаецца рэктар. У заключэнне я хачу пажадаць абітурыентам, каб яны прадэманстравалі добрыя веды. А калі ў іх узнікне неабходнасць нешта высветліць для сябе ці параіцца — такая магчымасць існуе рэальна ў кожнай ВНУ.

**Гутарыў Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**

*ВЫТВОРЧЫЯ ДРАМЫ*

# АПОШНЯЕ СЛОВА ЗА СХОДАМ... І СЛЕДЧЫМІ

**Брэсцкі аблвыканкам даў дазвол Лунінецкаму райвыканкаму на скасаванне кантракта са старшынёй калгаса «Расія» Васілём Абраменяй. Чым было выклікана гэтае рашэнне?**

*«За невыкананне ўстаноўленага аблвыканкамам парадку рэалізацыі жывёлы камерцыйным структурам і прадпрымальнікам... адсутнасць парадку пры фінансаванні будаўніцтва дарог наёмнай брыгадай...» — гаворыцца ў пастанове ад 15.06.1998 г.*

Райвыканкам разарваў кантракт, а старшыня калгаса, зыходзячы з гэтага, павінен быў напісаць заяву і пакінуць пасаду па ўласнаму жаданню. Але Васіль Абраменя катэгарычна адмовіўся гэта зрабіць.

У выніку склалася тупіковая сітуацыя, бо кантракт юрыдычнай сілы не мае. Выбраць ці зняць з пасады кіраўніка калгаса можа толькі агульны сход калгаснікаў. Пасля разрыву кантракта ў райвыканкама знікла магчымасць уплываць на дзейнасць старшыні калгаса. І кіраўніцтва раёна, жадаючы ўнесці яснасць ва ўзнікшую сітуацыю ці пакараць непакорнага старшыню, падключыла да работы дзяржкантроль, пракуратуру і міліцыю. Адным словам, у раёне рыхтуюцца да рашучых дзеянняў. Праваахоўныя органы шукаюць у рабоце В. Абрамені крымінальныя агрэхі, а сам старшыня «акапаўся» ў родным калгасе і заняў актыўную абарону.

На імя прэзідэнта Беларусі адпраўляецца пісьмо ў падтрымку старшыні калгаса, хаця прозвішча яго не ўпамінаецца. Пад гэтым пасланнем паставілі подпісы 432 калгаснікі.

У пісьме, якое атрымала ў вобласці шырокую агалоску, у асноўным акцэнт робіцца на эканамічныя дасягненні калгаса і *«...просім вас прыцягнуць да адказнасці заказчыка эксперыменту над калгасам «Расія», мэта якога — дэстабілізаваць абстаноўку ў гаспадарцы, альбо іх непасрэдных выканаўцаў...»*

Хаця ў пісьме заказчык ганенняў і не ўказаны, але бачна, што гэта кіраўніцтва раёна, бо хто яшчэ можа накіроўваць у калгас шматлікіх інспектараў?

Ды і старшыня райвыканкама Аляксандр Волчык не хаваў негатыўных адносінаў да сітуацыі, якая склалася ў калгасе «Расія». «За ўсе парушэнні, якія там адбыліся, найперш дасталося мне, а я напачатку і не ведаў, што там робіцца», — паведаміў Аляксандр Іванавіч.

Дык што робіцца ў калгасе, які займае даволі моцныя эканамічныя пазіцыі ў раёне?

Парушэнні выкладзены ў акце, які займае амаль 10 аркушаў машынапіснага тэксту. Але галоўныя абвінавачанні ў адрас старшыні сканцэнтраваны вакол продажу свініны камерцыйным структурам і пракладкі дарогі па землях калгаса наёмнай брыгадай.

Менавіта на гэтых пунктах і мы засяродзім сваю ўвагу.

Рэвізоры выявілі, што ў красавіку 1997 г. калгас прадаў фірме «Антару» 230 свіней. За 1 кг жывой вагі камерсанты плацілі 30 тыс. рублёў, затраты ж на 1 кг прыбаўлення ў вазе складаюць 34.210 рублёў, а гэта прынесла гаспадарцы страты ў суме 132 млн. Пасля паўторнай здзелкі з гэтай жа фірмай калгас страціў 246 млн. рублёў. Прадавалі свіней і ТАА «Алдынтон» і зноў са стратамі — 159 млн. Меў дзелавыя кантакты калгас і з іншымі фірмамі і прадпрымальнікамі.

Усё гэта дэталёва зафіксавана ў акце кантралёрамі.

У аўтара гэтых радкоў няма падстаў сумнявацца ў прафесіяналізме сталічных інспектараў, якія і сцвярджаюць, што ў акце ўсё абсалютна дакладна. Але пры знаёмстве з некаторымі дэталямі гэтага канфлікту склаўся свой погляд на справу.

І ўсё ж найбольшую ўвагу прыцягваюць не гэтыя здзелкі, грошы ад якіх прайшлі праз касу, а аперацыя па продажу 128 свіней. Камерсанты выплацілі 959.840.200 рублёў. Але гэтыя грошы не былі апрыходаваны ў калгаснай касе. Грошы прайшлі па ведамасці, у якой гаварылася, што яны «адпушчаны работнікам калгаса ў парадку натуральнай аплаты».

Свіней прадалі, а грошы выдалі калгаснікам. Але афармілі як выплату быццам бы свініны ў жывой вазе. Тут ёсць адзін цікавы момант, але пра яго — крыху ніжэй.

Я сустрэўся са старшынёй калгаса. Васіль Фёдаравіч не быў у панурым настроі. «Людзям трэба выплачваць зарплату? Трэба. Вось мы і выплацілі натурай, як і вырашыў сход калгаснікаў. Калі на заводзе людзі атрымліваюць заробак панчохамі ды трусамі, то чаму калгас не можа выдаць мясам? А аддасі грошы ў банк, то і не ўгледзіш», — разважае В. Абраменя.

Тут неабходна ўнесці яснасць. Нягледзячы на мільярдныя прыбыткі ад рэалізацыі свініны, у калгаса запазычанасць у сотні мільёнаў перад бюджэтам і пенсійным фондам. І калі грошы трапляюць у банк, іх здымаюць з калгаснага рахунку для пагашэння даўгоў.

Мець справу з камерсантамі калгасу выгадна. Па-першае, яны плацяць даражэй. Па-другое, грошы выдаюць адразу ж. Могуць і наяўнымі.

А вось здаў калгас на Бярозаўскі мясакамбінат свіней на 2,5 мільярда рублёў, а з пералічэннем часткі грошай у прадпрыемства выйшла затрымка.

Ды і якія прэтэнзіі могуць быць да кіраўніка гаспадаркі, калі яна своечасова разлічваецца з дзяржавай па пастаўках свініны? Выканала і перавыканала дзяржзаказ у мінулым годзе. Не будзе, мусіць, праблем з планам і сёлета.

«Чаму калгас не можа прадаваць свіней камерцыйным структурам, а тым больш выдаваць зарплату сваёй прадукцыяй? Хто можа забараніць сходу калгаснікаў прыняць любое рашэнне? Уласнасць не дзяржаўная, а калгасная. І распараджаюцца ёю тыя, каму яны належаць», — гаворыць Васіль Фёдаравіч.

За мінулы год калгас «Расія» прадаў камерсантам 7428 свіней, а дзяржаве — каля тысячы. Акрамя гэтага, праз каўбасны цэх калгаса прадпрымальнікам трапіла яшчэ 851 тона свініны. Выгада ад гэтых аперацый для гаспадаркі відавочная. А для дзяржавы?

У маі дзяржава за 1 кг свініны (жывой вагі) плаціла — 45 тысяч, а камерсанты — 60 тысяч. Праўда, такая цана толькі ў апошнія месяцы, а вось ў студзені дзяржаўная была 41,5 тыс./кг, а камерцыйная — 46,4 тыс./кг. Але і тады выгадна было збываць прадукцыю прадпрымальнікам.

Дзяржава, якая ўкладвае ў сельскую гаспадарку каласальныя грошы, у гэтай сітуацыі застаецца ў пройгрышы. Калі калгас атрымлівае датацыі (паліва, угнаенні і г. д.) ад дзяржавы, то відавочна, яна не можа быць у аднолькавых умовах з камерсантамі пры закупцы сельскагаспадарчай прадукцыі.

Сабекошт свініны ў калгасе «Расія» самы нізкі па вобласці (за 1997 год) — 28.650 рублёў на 1 кг прыбавачнай вагі, а рэалізоўвалі свініну па 32,961 тыс./кг. Гэтыя лічбы — сярэднія за год.

Хаця свініна і прадавалася не ўсім фірмам па аднолькавай цане (адносна сабекошту). Напрыклад, прадпрымальнік В. Чэрнік купіў 156 свіней і плаціў за 1 кг 28.000 рублёў. А гэта крыху ніжэй сабекошту.

Цяпер вернемся да моманту з натуральнай аплатай. Старшыня калгаса сказаў, што быў сход калгаснікаў, на якім вырашылі выдаваць зарплату свінінай. Толькі вось рашэнне таго сходу нідзе не зафіксавана. Пратакола няма. Як няма і дакумента, які сведчыў бы, каму і колькі кілаграмаў мяса належала выдаць. А калі калгаснікі папрасілі, каб калгас прадаў, перавёў свініну ў грошы, то чаму няма ніводнай заявы, якая б зафіксавала гэтую просьбу? І зноў жа, прадалі 128 свіней, а каму — невядома. Калі б свінакомплекс быў прыватны і то прыйшлося б афармляць дакументы, браць у прадпрымальнікаў зыходныя даныя, каб не мець праблем з падатковай інспекцыяй. А тут не пацікавіліся нават прозвішчам камерсантаў.

«А хто думаў, што ўсё прыме такі абарот», — разводзіць рукамі старшыня, які кіруе гаспадаркай ўжо 6 гадоў.

Усе дарогі ў калгасе заасфальтаваныя, і ездзіць па іх адно задавальненне. І Васіль Фёдаравіч не без гонару паказваў іх. А кантралёры ўстанавілі, што аб'ёмы работ пры будаўніцтве дарог завышаны на 70 працэнтаў. Ці так гэта, павінны высніць спецыялісты. А я хачу звярнуць увагу толькі на некаторыя факты.

Дарогі будавала наёмная брыгада армян. В. Палакян працуе ў калгасе. Вось ён і сабраў брыгаду з 13 землякоў. За 8 месяцаў работы сярэдні заробак у брыгадзе быў 35 млн. у месяц (прыкладна 1000 долараў), у той час як у Лунінецкім РБУ сярэдняя зарплата толькі 1,3 млн.

Магчыма, у будаўнічым упраўленні і слаба працуюць, але якая павінна быць у чалавека норма выпрацоўкі, каб атрымліваць у месяц 35 млн., калі ўлічыць, што будаўнічых матэрыялаў і механізмаў у брыгады не было.

За работу брыгадзе выдалі з касы калгаса 166 млн. рублёў, і яшчэ В. Палакян атрымаў 237 свіней на суму 1,5 мільярда (па калгаснаму разліку), якіх і вывез за межы Брэстчыны. Напэўна, ад гэтай камерцыйнай здзелкі грашовая сума значна вырасла.

Цяпер «пракладкай дарог» займаюцца следчыя. Іх высновы і сыграюць сваю ролю ў лёсе старшыні.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**




*тась сістэма якасці была серты-*
*ана па стандартах ІСО 9002. БМЗ*
*першым прадпрыемствам не толь-*
*род краін СНД, але і Усходняй Еў-*
*, якое атрымала скандынаўскія*
*фікаты. Асабліва славіцца мясцо-*
*еталакорд — тонкі і разам з тым*
*і трывалы дрот, сплецены ў ка-*
*Яго і выкарыстоўваюць пры вы-*
*асці аўтамабільных шын такія вя-*
*я фірмы, як французская «Сікуп»,*
*ыйская «Земперыт», чэшская «Ба-*
*германскія «Кантыненталь» і*
*да»... Па дарогах многіх краін све-*
*аць «Мерседэсы», «Вольва», «Іка-*
*, Шкода», «абутыя» ў шыны з бе-*
*ларускага металакорду.*

*Здавалася б, што яшчэ трэба: ёсць сусветная вядомасць, прызнанне, упершыню за гэтыя гады завод выйшаў на праектную магутнасць, існуюць неабмежаваныя рынкі збыту... І раптам — поўная рэканструкцыя, мадэрнізацыя асноўнага абсталявання. Чым выклікана гэта рашэнне, якое дабавіць галаўнога болю кіраўнікам вытворчасці, запатрабуе нямала сіл, часу і сродкаў? Пра ўсё гэта мы і паспрабавалі высветліць у генеральнага дырэктара прадпрыемства Юрыя Феакцістава. Сустрэча адбылася якраз напярэдадні Дня металурга.*

# прыемства
# іга дня»

**сокая ацэнка найперш датычыцца вас. Сёння сацыяльная сфера для многіх кіраўнікоў непраходзячы галаўны боль. А вы ўмудраецеся не толькі поўнасцю захаваць яе на балансе завода, але яшчэ і ўсямерна развіваць. Нядаўна даведаўся, што з дапамогай БМЗ удалося аснасціць мясцовую бальніцу нейкім суперсучасным абсталяваннем. І кватэры па-ранейшаму будуеце бясплатна. Як удаецца ўсё гэта?**

— Лічу, што хопіць дэклараваць прапісныя ісціны накшталт таго, што ўсё робіцца для чалавека, усё — дзеля яго дабрабыту. Мы проста па меры сіл і сродкаў імкнёмся хоць што-кольвечы зрабіць для гэтага самага чалавека. Асаблівая ўвага ўдзяляецца жыллёваму будаўніцтву. Летась за кошт завода пабудавалі 188 кватэр. Яшчэ два такія ж дамы ўзведзены па льготнаму крэдытаванню для маладых сем'яў. У такіх жа аб'ёмах вядзецца жыллёвае будаўніцтва і сёлета.

За гэтыя гады завод пабудаваў чатыры сярэднія школы, а першага верасня ў новым будынку пачнуць заняткі навучэнцы металургічнага тэхнікума. На заводзе адкрыты таксама філіял Гомельскага політэхнічнага інстытута. Мы рэгулярна выплачваем людзям зарплату, якая, дарэчы, адна з самых высокіх у рэспубліцы. Шмат увагі ўдзяляецца пытанням аздараўлення металургаў. Летась на адпачынку ў здраўніцах краіны і за межамі пабывалі каля 2 тысяч нашых работнікаў, прычым больш за палову з іх — па пуцёўках за кошт завода. Калі работнік прадпрыемства адпачывае па санаторнай пуцёўцы, то ён аплачвае ўсяго 10 працэнтаў ад яе кошту. Дзеці да 10 гадоў наогул адпачываюць бясплатна. Больш як чатыры тысячы дзяцей нашых работнікаў прайшлі аздараўленне па праграме «Чарнобыль» у Іспаніі і Славакіі, пры гэтым іх бацькі аплацілі толькі 15 працэнтаў кошту пуцёвак. Пры заводскім фізкультурна-аздараўленчым комплексе дзейнічаюць мноства спартыўных секцый, дзе ахвотна займаюцца як самі металургі, так і іх дзеці. З

аўсёды расчынены дзверы для ўсіх жадаючых і ў Палацы культуры металургаў. Па праву ганарымся тым, што Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь прысвоіла званне «Узорны самадзейны калектыў» мясцовай студыі дэкаратыўна-прыкладной творчасці, выстава якой праводзілася ў Нацыянальным цэнтры дзяцей і моладзі ў Мінску. Што датычыцца бальніцы, то ў рэанімацыйным аддзяленні было ўстаноўлена новае суперсучаснае медыцынскае абсталяванне, выраблёнае ў ЗША і Германіі. На набыццё яго завод выдзеліў 350 тысяч долараў. Па ацэнцы спецыялістаў, гэтае абсталяванне не толькі універсальнае, але і вельмі надзейнае, дазваляе кантраляваць стан пацыентаў па многіх параметрах.

У выніку па тэхнічнай забяспечанасці рэанімацыйнае аддзяленне будзе лепшым на Гомельшчыне. А калі гаварыць пра наркозадыхальныя аўтаматы, то па сваіх тэхнічных магчымасцях аналагаў ім няма ў рэспубліцы. Гавару гэта не дзеля прыгожага слоўца, а каб яшчэ раз падкрэсліць, што клопаты пра чалавека, яго быт, здароўе мы ставім на адну ступень з вытворчымі справамі. І людзі разумеюць гэта.



**Аляксандр ЖУКОЎСКІ**
**це кіравання печы.**



**Матэрыялы выпуску падрыхтавалі да друку спецыяльныя карэспандэнты «Звязды» Уладзімір ГОЙТАН і Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).**



**Разліўшчыкі сталі Леанід ПІНЧУК, Юрый ПАЎЛАЎ, Юрый ГРУЗІЛЕНКАЎ, Віктар САНЕЦ.**



**Сортапракатны цэх.**



**Валачыльшчыкі дроту Васіль РУБАН і Сяргей ПАЦАЛУЁНАК.**



**Адзін з мікрараёнаў Жлобіна, дзе жывуць металургі.**

ПЛАНЕТА ЖЫВЁЛ

# АБ «ЛЮДАВЕДАХ» І «ДУШАЛЮБАХ»

***Індыйская правінцыя Сундарбан здзіўляе сваёй казачнай прыгажосцю: такое ўражанне, што гэта райская мясціна ведае толькі адну пару года — вясну. Жанчыны ў яркіх сары на ярка-зялёных чайных плантацыях, па якіх снуюць такія ж яркія трактарчыкі, — усё гэта прыўносіць у душу пабочнага назіральніка нейкае хараство. Але не варта расслабляцца, бо кожную секунду з бліжэйшых джунгляў можа ўдарыць маланка.***

Тыгры-людаеды Сундарбана ва ўсім свеце вядомы сваімі нахабствам, крыважэрнасцю і бясстрашнасцю. Першы афіцыйны падлік ахвяр даў такія лічбы: у 1822 годзе тыгры разарвалі пяцьсот чалавек і дваццаць тысяч валоў. І гэта толькі ў адной акрузе Бамбея! У пачатку нашага стагоддзя тыгры забіралі да 850 чалавек у год, але гэта ўжо ва ўсіх акругах Індыі, разам узятых. У той жа час сумна вядомая тыгрыца з Чампавата забіла і з'ела 436 чалавек, перш чым яе знайшла куля Джыма Корбета — англічаніна па паходжанню, вядомага пісьменніка, непераўзыдзенага паляўнічага на тыграў-людаедаў і нацыянальнага героя Індыі.

Сумная статыстыка працягваецца і ў наш час — с 1989 па 1996 год ад зубоў і кіпцюроў тыграў загінула звыш семісот чалавек, гэта значыць каля сотні у год. Значна менш, чым у мінулым стагоддзі, але і тыграў засталося зусім мала.

... У тую сакавіцкую раніцу 1987 года вёска ля самага Нацыянальнага парка Корбет (названага па імені Джыма Корберта) была ўсхвалявана жудаснай навіной: тыгр разарваў дачку каваля. Раз'юшаны натоўп, не думаючы аб небяспецы кінуўся ў джунглі. Калі людзі ўбачылі звера-забойцу і спыніліся ў нерашучасці, тыгр кінуўся на прарыў, раздраўшы па дарозе яшчэ аднаго селяніна. Нарэшце раз'юшаны натоўп з двума трупамі на руках накіраваўся да дома кіраўніка запаведніка. Выбілі шыбы, пакарабацілі аўтамабілі. Толькі дзякуючы падаспеўшай паліцыі ўдалося пазбегнуць кровапраліцця. Людзі патрабавалі поўнага і паўсюднага знішчэння тыграў.

У самым пачатку нашага стагоддзя Корбет пісаў: «тыгр-людаед, гэта звер, выбіты з каляіны абставінамі, вымушаны шукаць лёгкай здабычы, груба парушаць тыгрыныя звычкі. Такімі абставінамі для яго ў дзевяці выпадках з дзесяці становяцца цяжкія калецтвы, няздольнасць паляваць з ранейшым спрытам. У дзесятым выпадку прычынай з'яўляецца немалады ўзрост, сточаныя зубы і ўсё тое ж бяссілле на сапраўдным паляванні».

Нянавісць — вось галоўнае пачуццё, якое зведвае любы індыйскі селянін да тыгра. Нягледзячы на шматлікія заканадаўчыя акты ў абарону паласатых драпежнікаў, на ўсё новыя і новыя запаведнікі і нацыянальныя паркі колькасць гіганцкай кошкі ў Індыі працягвае няўхільна скарачацца. Нішто не спыняе сялян: ні велізарныя штрафы, ні турэмнае зняволенне за кожнага забітага тыгра. «Добры тыгр — мёртвы тыгр» — адна з любімых прыказак індыйскай правінцыі. За два апошнія гады, напрыклад, у Дадхве загінулі больш як пятнаццаць тыграў. Некаторыя з іх былі застрэлены, іншыя атручаны, а аднаму адарвала галаву, калі ён схапіў кавалак мяса, начынены дынамітам.

На тэрыторыі былога СССР таксама водзяцца тыгры, прычым самы магутны, самы буйны з падвідаў — усурыйскі (на Захадзе яго называюць сібірскім) тыгр. Афіцыйна зарэгістраваных нападаў усурыйскага тыгра на чалавека як на здабычу (а мы разглядаем менавіта гэтыя выпадкі, а не выпадкі забойства людзей у мэтах самаабароны, абароны патомства і г. д.) усяго два, і гэта на працягу пары стагоддзяў уважлівага назірання за гэтым драпежнікам. Сярод аднатыпных тыгру відаў жывёл, якія больш-менш актыўна прамышляюць, варта прыгадаць леапарда і ягуара. Сярод ільвоў таксама раней сустракаліся выпадкі людаедства, але на працягу нашага стагоддзя дакументальна зафіксаваны толькі тры.

**Аб леапардах як аб людаедах варта сказаць асобна.** Па-першае, па невядомых пакуль прычынах людаедамі становяцца толькі афрыканскія прадстаўнікі гэтага віду (а жывуць яны ў Азіі, на Блізкім і Далёкім Усходзе і нават на Каўказе). Па-другое, леапарды, толькі аднойчы пакаштаваўшы чалавечыны, ацаніўшы яе смак і прастату здабычы, становяцца «прафесійнымі» і перакананымі паляўнічымі на двухногую «дзічыну». Варта ўпамянуць самку леапарда з мянушкай Свілі, якая ў 1946 годзе спустошыла зулускую вёску. Першага чалавека яна забіла і з'ела ў 1944 годзе, затым, усяго за два гады, яе асабісты рахунак склаў 240 мясцовых жыхароў плюс два еўрапейскія паляўнічыя, якія толькі дзеля яе прыехалі ў Афрыку. Потым Свілі прапала. Магчыма пайшла куды-небудзь, магчыма, загінула.

**Ягуары — жыхары Новага Свету** — да канца мінулага стагоддзя таксама даволі часта зведвалі чыста гастранамічную цікавасць да сваіх двухногіх суседзяў. Чуткі аб людаедстве ягуараў працягваюць паступаць і ў нашыя дні, і хоць усе яны застаюцца абсалютна бяздоказнымі, з цяжкасцю верыцца, што гэты моцны звер раптам узяў і перавыхаваўся.

Але хопіць пра кошак, а то чаго добрага асцерагацца будзеце хатняй Муркі. Заяўляю зусім аўтарытэтна: хатнія каты людзей не ядуць, вось бульбяныя лупіны — бывае, сам бачыў (з вялікай галадухі, мабыць).

**Апошнія чуткі нападу ваўкоў на людзей на тэрыторыі Беларусі і Расіі** зафіксаваны ў канцы саракавых гадоў. Гэта лёгка можна растлумачыць. Мноства непахаваных трупаў, якія засталіся пасля баёў другой сусветнай, і лёгкасць, з якой можна было здабыць ежу, «разбэсцілі» ваўкоў і прымусілі іх выходзіць на паляванне за «прадуктам», які ўжо стаў прывычным (даруйце мне гэты вымушаны цынізм). У 50-х гадах выпадкі людаедства ваўкоў былі ўжо адзінкавыя. Тлумачыцца гэта таксама проста — паўсюднае знішчэнне шэрых драпежнікаў усімі даступнымі сродкамі: ружжамі, ядамі, пасткамі і нават пры падтрымцы арміі і авіяцыі.

**Цяпер пра тых, вакол каго нарадзілася мноства самых жудасных і неверагодных гісторый, — аб рэптыліях.** Пачнём з кракадзілаў. У некаторых раёнах нашай планеты — у вярхоўях Ніла, напрыклад — ад нільскага кракадзіла гіне больш людзей, чым ад укусаў ядавітых змей, драпежных звяроў і пад коламі аўтамабіляў. Чалавек у гэтых раёнах — звычайная здабыча гіганцкіх рэптылій. Самыя небяспечныя кракадзілы (яны ж і самыя буйныя) — нільскі і грабністы.

Індыйскі гавіял — ведаеце такога, з рылам доўгім і тонкім, як пінцэт, — хоць і дасягае даволі вялікіх памераў і прывык паядаць трупы людзей з-за таго што, ў Індыі да гэтага часу нябожчыкаў хаваюць у водах свяшчэннай ракі Ганг, але на жывых людзей не нападае ніколі.

Могер, ці балотны кракадзіл, у Індыі таксама ніколі не нападае на людзей, але той жа від, які жыве на Цэйлоне, не адмовіцца ад чалавечыны.

Як бачыце, з кракадзіламі ўсё зразумела, і большасць гісторый, расказаных аб іх крыважэрнасці, на жаль, пацвярджаецца.

**Значна цікавей складваецца справа з гіганцкімі змеямі.** Толькі адно слова «анаконда» прымушае здрыганýцца значную частку чалавецтва. На самай жа справе анакондзе сярэдняга, 3,5-метровага памеру не хопіць сіл для таго, каб справіцца з чалавекам. Але гэтага і не трэба, анаконды проста не ўспрымаюць чалавека як здабычу. Хоць не бывае правілаў без выключэнняў. Вядомы беларускі заолаг А. Чагадаеў прыводзіць два запратакаліраваныя Рольфам Бломбергам выпадкі паядання людзей анакондай. Цёмны тыгравы пітон на востраве Салебабу задушыў і праглынуў 14-гадовага падлетка. Ахвярай сятчастага пітона былі таксама падлеткі і адзін раз — мініяцюрная жанчына. Чагадаеў прыводзіць цікавы факт, калі людзі станавіліся віноўнікамі людаедства з боку іерогліфных пітонаў. На адным з астравоў возера Вікторыя, што ў Афрыцы, скормліваючы гэтым рэптыліям нямоглых старых і хворых дзяцей, прывучылі іх да людаедства...

**Цяпер аб рыбах.** На борце транспартнага карабля «Кейп-Сан-Хуан», тарпедаванага японцамі, знаходзілася 1429 чалавек. Выратавалі толькі 448. «І нават у час выратавальнай аперацыі некалькі зграй акул працягвалі бясчынстваваць вакол надзіманых плоцікаў і знішчаць тых, хто ў іх знаходзіўся... Зноў і зноў чуліся крыкі салдат, у той час як акулы сцягвалі іх з платоў у ваду... (Г. Маккормік, Т. Ален, В. Янг).

Транспарт «Нова Скоція» быў патоплены ля берагоў Паўднёва-Усходняй Афрыкі, загінула тысяча чалавек. Навокал плавала мноства трупаў у выратавальных камізэльках, «...усе яны былі без ног». Акулам, таксама як і ваўкам, мінулая вайна прынесла багатую здабычу. Гэта рыба з'яўляецца, бадай, адзінай сярод жывых істот, усе чуткі аб пражэрлівасці якой ніколькі не перабольшаны.

Але на самай справе ўсё значна лепш, чым можна падумаць. Азірніцеся навокал, колькі швэндаецца бяздушнага, крыважэрнага «звяр'я» на колах, ды на двух нагах таксама. У самых дзікіх джунглях знаходзіцца больш бяспечна, чым у цэнтры буйнога горада. Верагоднасць загінуць пад коламі аўтамабіля намнога большая, чым у сківіцах тыгра. Ніяк не зразумею, чаму так узрушвае большасць абывацеляў вестка аб тым, што хтосьці загінуў у выніку нападу кракадзіла або акулы, а штодзённую крымінальную хроніку ці рэпартажы з чарговай вайны мы чытаем зусім спакойна?

**Аляксандр АЧАРЭТНІ.**

*Фота з кнігі індыйскага фатографа Раджэша Бедзі.*

## «ХАЦЕЛІ ЗАБІЦЬ КЛІНТАНА АТРУЧАНАЙ ІГОЛКАЙ КАКТУСА»

«Хітры план забойства прэзідэнта Біла Клінтана і іншых кіраўнікоў дзяржавы і ўрада «з дапамогай іголкі кактуса, заражанай смяротным вірусам», завяршыўся турмой для траіх тэхасцаў, якія, як мяркуюць, звязаны з сепаратысцкім рухам «Рэспубліка Тэхас». Пра гэта паведаміла газета «Браунсвіл геральд».

Гэтыя трое былі арыштаваны два тыдні таму, пасля таго як яны выступілі з пагрозамі па электроннай пошце ў адрас сваіх ахвяр у той момант, калі перараблялі запальнічку ва ўстройства, здольнае выстраліць заражанай іголкай. Знойдзены ў іх гучок кактуса быў заражаны вірусам ВІЧ-інфекцыі ці шаленства і, відаць, прызначаўся Клінтану, кіраўніку ФБР Луісу Фры, міністру юстыцыі Джанет Рэно і іншым».

***«Стампа»** (Італія).*

## САЛДАЦКУЮ ВЫВУЧКУ ДЭМАНСТРУЮЦЬ... ДЭЛЬФІНЫ

У міжнародных ваенных вучэннях «Baltic Challenge», якія пачаліся на гэтым тыдні ў Літве, разам з салдатамі прымаюць удзел і дэльфіны. Яны «прызваны» на службу Ваенна-марскімі сіламі ЗША.

Спецыяльна абучаныя дэльфіны і іх дрэсіроўшчыкі на вучэннях выконваюць функцыі разведчыкаў і ахоўнікаў. Акрамя таго, марскія памочнікі здольны адшукваць міны, ратоўваць людзей і папярэджваць іх аб надыходзячай небяспецы. Вучэнні з дэльфінамі прадоўжацца дзесяць дзён. Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, упершыню ў такіх спецыфічных ваенных аперацыях прымаюць удзел і шведскія салдаты.

**Інэса МОІН, БЕЛТА.**

## ЛІТВА НЕ ПЕРАНЯЛА ПРЫКЛАД ЕЎРАСАЮЗА

Літва не далучылася да санкцый Еўрасаюза, што прадугледжваюць нявыдачу віз высокапастаўленым службовым асобам Беларусі. Адказны работнік літоўскага Міністэрства замежных спраў, які не пажадаў назваць свайго прозвішча, такую пазіцыю Літвы растлумачыў нязменным курсам кіраўніцтва гэтай краіны на добрыя адносіны з усімі суседнімі дзяржавамі.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БЕЛТА.**

## ПАЖЫЛЫЯ МАМЫ МАЮЦЬ ШАНЦ ДАЖЫЦЬ ДА 100 ГАДОЎ

Томас Перла з медыцынскай школы Гарварда і Руф Фрэтс з клінікі ў Бостане, вывучаючы дзве групы жанчын 1896 года нараджэння, прыйшлі да высновы, што найбольшы шанц дасягнуць 100-гадовага ўзросту маюць тыя, хто нарадзіў апошняе дзіця пасля 40. Верагоднасць павялічваецца ў 4 разы! Арганізм жанчын, якія нараджаюць у познім узросце, старэе больш павольна.

**Алена РУДЭРМАН.**
**«АиФ — Здоровье».**

## ЛІТВА І ПОЛЬШЧА: ДАГАВОР АБ РЭАДМІСІІ НЕЛЕГАЛЬНЫХ МІГРАНТАЎ

У адпаведнасці з гэтым дакументам парушальнікі пашпартнага рэжыму (як правіла, гэта людзі, якія ў пошуках лепшай долі імкнуцца трапіць на Захад) будуць вяртацца ў суседнюю краіну. Такія дагаворы Польшча цяпер мае з усімі суседзямі, акрамя Расіі і Беларусі. Нагадаем, што менавіта гэтым у пачатку сёлетняга года афіцыйна тлумачылася ўвядзенне новых правілаў уезду ў Польшчу для беларускіх і расійскіх грамадзян.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## КАЛІ ЧЫНОЎНІКА ДАПУСКАЮЦЬ ДА КАЗНЫ, ЯНА ПАЧЫНАЕ СПЯВАЦЬ РАМАНСЫ

**Да паведамленняў аб крадзяжах шматмільярдных сум расіяне, падобна, пачалі прывыкаць гэтак жа, як прывыкае вока да змены пары года. Нішто ўжо не ўзрушае ўяўлення. Наўрад ці ўзрушаць і гэтыя гісторыі. Але ведаць пра іх карысна, бо яны раскрываюць тэхналогію рабавання дзяржаўнай казны па самых розных прычынах.**

Два гады таму на стол прэзідэнта РФ лягла запіска, у якой тлумачылася, што Расіі надзвычай важна стварыць структуру, якая б занялася лабіраваннем дзелавых інтарэсаў Расіі ў ЗША. Прэзідэнт выдаў адпаведнае распараджэнне аб Цэнтры расійска-амерыканскага партнёрства са звычайнымі ў такіх выпадках фармулёўкамі («стварыць», «зацвердзіць», «забяспечыць» і інш.). Вельмі хутка цэнтр абзавёўся прыстойным офісам у цэнтры Масквы, камп'ютэрамі, сродкамі ўрадавай сувязі, людзьмі. Адным з членаў Савета дырэктараў назначаецца памочнік Чарнамырдзіна — Тарасаў.

Дзяржава грошай не пашкадавала. Мінфін пералічыў цэнтру з урадавага рэзерва каля 5 мільёнаў долараў, а Цэнтрабанк выдаў ліцэнзію на адкрыццё валютных рахункаў у ЗША, каб забяспечыць дзейнасць прадстаўніцтва ў Вашынгтоне.

Ну і што налабіраваў за гэтыя гады цэнтр? А нічога. Ні адзін з заснавальнікаў — а гэта сем фінансавых і прамысловых структур — сваіх 50 тысяч у статутны фонд так і не ўнёс. Затое ў Амерыку на рахунак «Рыгз Банка» пайшлі 1,3 мільёна долараў — першы «транш» з выдзеленай цэнтру сумы.

Паспешлівасць праявіў Тарасаў. На ўрадавым бланку, без узгаднення з выканаўчым дырэктарам цэнтра, ён патрабаваў ад кіраўніцтва аднаго з банкаў, дзе ляжалі валютныя сродкі цэнтра, перавесці іх на карэспандэнцкі рахунак у «Рыгз Банк» у ЗША.

Затым на імя Тарасава прыходзіць дзіўны факс: «Дарагі пан — памочнік прэм'ер-міністра. Гэтым самым мы засведчваем, што кампанія «Skalar Intenatonal Inc», прымаючы пад увагу ваш удзел у яе справах, пацвярджае, што вы маеце права на атрыманне трыццаці працэнтаў прыбытку са здзелак, у якіх вы асабіста ўдзельнічалі». Напомнім: Тарасаў — памочнік Чарнамырдзіна, гэта значыць дзяржслужачы. Няўжо амерыканцы не ведаюць нашых законаў, па якіх ніякія «чаявыя» за ўдзел у здзелках ім не належаць? Вядома, ведаюць. Але, відаць, прывыклі да асаблівасцяў расійскага бізнесу. І другая акалічнасць. ЦБ адкрыў цэнтру валютны рахунак выключна пад патрэбы прадстаўніцтва — на выплату заработку супрацоўнікам, аплату арэнды офіса і інш. Ніякіх фінансавых здзелак, аб якіх гаварылася ў факсе, прадстаўніцтва ажыццявіць па статуту не мела права. Але... У гэтым «але» і ўся справа.

Савет дырэктараў цэнтра ў абход закона зарэгістраваў прадстаўніцтва як даччынае прадпрыемства, якое працуе ў ЗША і падпарадкоўваецца мясцовым законам. А паспрабуй пракантралюй рух грошай на рахунках амерыканскага прадпрыемства! У выпадку, калі б даччынае прадпрыемства развіло камерцыйную дзейнасць, усе падаткі заставаліся б у краіне знаходжання.

Гэта гісторыя мела шырокі рэзананс. Рахунковая палата абвясціла вынікі праверкі дзейнасці цэнтра, кваліфікаваўшы яе як спробу нанясення матэрыяльных страт дзяржаве. Дзярждума запатрабавала прыпыніць усе віды фінансавых, плацежных і разліковых аперацый па рахунку цэнтра ў Расійскім банку рэканструкцыі і развіцця. Добрая ідэя ў выніку абярнулася гучным скандалам.

**Ірына ПЕТРАКОВА,**
**уласны карэспандэнт газеты «Звязда» ў Маскве.**

*Выказваю сардэчную падзяку былым супрацоўнікам, сябрам і знаёмым, якія ў той ці іншы час крочылі разам са мною па жыццёвых сцежках і якія павіншавалі мяне з васьмідзесяцігоддзем.*

*Асабліва дзякую за цёплыя віншаванні Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку, кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаілу Уладзіміравічу Мясніковічу, калектывам Дзяржкамдруку, газеты «Звязда», Рэспубліканскага Савета ветэранаў, дзяржаўных выдавецтваў Рэспублікі Беларусь, вытворчага паліграфічнага аб'яднання імя Якуба Коласа, Мінскай фабрыкі каляровага друку, выдавецка-паліграфічнага цэнтра «Белкніга».*

*Усе гэтыя віншаванні я ўспрыняў як высокую ацэнку маёй сціплай працы на ніве журналісцкай і кнігавыдавецкай справы ў Рэспубліцы Беларусь.*

**М. І. ДЗЯЛЕЦ.**

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем з 50-годдзем сумеснага жыцця паважаных бацькоў **Міхаіла Максімавіча і Ганну Сцяпанаўну МІНЕЦ** з в. Семежава Капыльскага раёна.*

*Жадаем ад сэрца, што можна жадаць:*
*Каб гора ніколі вам не спазнаць,*
*Каб лёс толькі шчасце вам дараваў*
*Ды шляху ліхога не пасылаў.*

**Дачка Святлана і яе сям'я.**

*Любую, дарагую **Галіну Іванаўну АЛЯХНОВІЧ** сардэчна віншуем з 55-годдзем. Няхай здароўе, шчасце, радасць і сямейны дабрабыт крочаць з табой па жыцці.*

**З любоўю — дачка з сям'ёй, в. Сялец.**

*Віншую любую дачку **Наталлю Анатольеўну АНОШКА** з днём нараджэння.*

*«Хай будзе век шчаслівы, ад нас усіх паклон.*
*Здароўя табе, мілая, блакітных зычым дзён».*

**Бацькі, в. Зябкі Глыбоцкага раёна.**

*Дарагі наш татачка і муж **Генадзь Уладзіміравіч ЧАРНЫШ**. Прымі самыя цёплыя віншаванні з юбілеем. Жадаем моцнага здароўя, цеплыні і ўтульнасці.*

**Сын, дачка, жонка, г. Слонім.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння любага нам **Сяргея Канстанцінавіча ГОЛІКА**. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе і заставацца заўжды чалавекам.*

**Бабуля Ніна, прабабка Жэня**
**і дзядзька Коля з сям'ёй, г. Магілёў.**

ЗВЯЗДА
18 ліпеня 1998 г.
7

***12 ліпеня, у дзень Пятра і Паўла па праваслаўным календары, у вёсцы Крывель Шклоўскага раёна адзначалі свята. Але сёлета адбыўся не толькі традыцыйны Пятроўскі кірмаш, а ансамбль суседняга сяла Заходы выконваў старажытныя пятроўскія спевы асабліва душэўна — для дарагіх гасцей з Расіі, сям'і знакамітага земляка, ураджэнца Крывеля, горача любімага народам савецкага кінаакцёра Пятра Алейнікава, якога памятаюць і дасюль па фільмах «Я кахаю», «Трактарыст», «Сямёра смелых», «Яна абараняе Радзіму», «Неба над Масквой» і многіх іншых.***

Бацька і сын (1945 г.)

У музеі.

# «САМАРОДАК» ШКЛОЎСКАЙ ЗЯМЛІ

## Знакаміты савецкі кінаакцёр Пётр АЛЕЙНІКАЎ

У дзень нараджэння Пятра Алейнікава у Крывелі адбылося ўрачыстае адкрыццё дома-музея гэтага вядомага кінаартыста. Ён стаў першым помнікам такога кшталту. Як лічаць арганізатары музея, Шклоўскі раён стварыў прэцэдэнт, у тым ліку і для Расіі. Але для родных Пятра Мартынавіча важней за усе прэцэдэнты ягонае вяртанне дадому, няхай і сімвалічнае, праз 33 гады пасля смерці. Сын акцёра Тарас Пятровіч казаў на адкрыцці, што бацька шмат разоў распавядаў пра сваю мару вярнуцца на радзіму, чаму заўсёды перашкаджала работа, а потым — і невылечная хвароба...

Пётр Алейнікаў нарадзіўся ў 1914 годзе ў вельмі небагатай хаце, а калі казаць дакладней — у крывой халупе, якую ў наш час зламалі і на ейным падмурку пабудавалі лялечны па прыгажосці дом-музей. Сястра Кацярына ўспаміцала, што ён быў вельмі жвавым, але ў той жа час і летуценнікам, які шмат часу гуляў у наваколлі вёскі. Гэтаму хлопчыку было наканавана лёсам прайсці шлях ад беспрытульніка да чалавека, якога ў літаральным сэнсе абажалі савецкія кінагледачы.

Кар'ера Алейнікава ў кіно спачатку складвалася вельмі шчасліва. Ён быў артыстам школы Сяргея Герасімава, які стаў яго першым настаўнікам і лепшым сябрам. Тарас Пятровіч расказваў, што калі бацька чытаў сцэнарый, то ў яго рухаліся кожны мускул і кожны нерв. Ён аддаваў усяго сябе сваёй працы, але разам з тым межы савецкага кіно ў тыя часы былі для яго цесныя. Гавораць, што Алейнікаў ніколі не саромеўся крытыкаваць нават масцітых рэжысёраў — часам бяздарных і кан'юнктурных. Гэта датычылася і чыноўнікаў ад культуры, якім Пётр Мартынавіч не жадаў дагаджаць. Па ўспамінах родных, ён быў чалавекам вельмі прамым і дзесьці нават ярышыстым — што думаў, тое і казаў, не лічыўся з чынамі.

Алейнікаў не прасіў за сябе, ён спрабаваў абараніць іншых і не баяўся гэта рабіць. Гавораць, што ён заступіўся ў свой час за Марка Бернеса. Пётр Мартынавіч не здраджваў сваім сябрам. Пляменнік акцёра Аляксандр Іосіфавіч распавёў на адкрыцці музея пра адзін паказальны выпадак: калі рэпрэсіраваная Таццяна Акунеўская пасля рэабілітацыі вярталася ў Маскву, на пероне з кветкамі яе сустракаў адзіны калега: толькі Пётр Алейнікаў не пабаяўся пайсці да актрысы, якая страціла міласць уладаў.

Ён так і не дачакаўся ніякага звання, хаця да апошняга моманту спадзяваўся на прызнанне сваіх паслуг кіраўніцтвам краіны. Гэтага так і не адбылося, але ён быў не па званню, а па сутнасці артыстам народным, любімым і шануемым. Яго сучаснікі пазнавалі яго ўсюды і заўсёды — і ў Сярэдняй Азіі, і на Далёкім Усходзе. Ён атрымаў у жыцці рэч самую каштоўную — бясконцую ўдзячнасць гледачоў.

Праўда, сёння нават родныя Пятра Мартынавіча не хаваюць і іншую прычыну адсутнасці звання ў гэтага таленавітага артыста. Тое, што асобы творчыя часта маюць праблемы з алкаголем, ні для кога не сакрэт. Усё пачыналася з таго, што людзі лічылі за абразу адмову вядомага акцёра выпіць з імі чарку. Потым алкаголь падаўся лепшым сродкам збегчы ад рэчаіснасці з яе жорсткімі схемамі, у якія не ўкладваўся, па меркаванню сям'і артыста, шырокі характар і талент Алейнікава.

Ён памёр у 1965 годзе — вельмі рана — ад рака... Апошнюю сваю стужку ён адпрацаваў ужо смяротна хворым. Гэта было ў пустыні Каракум, у Богам забытых мясцінах, сярод дзікіх вятроў і пяску. Алейнікаў прасіў рэжысёра Булата Мансурава не мяняць назву фільма — «Наталенне смагі», бо гэта было і ягонае апошняе наталенне...

Родныя Алейнікава не стаміліся на адкрыцці дома-музея ў Крывелі дзякаваць беларусам, бо яны зрабілі тое, чаго не здолелі ці не пажадалі зрабіць у свой час савецкія ўлады — ушанаваць талент і памяць чалавека выключнага таленту. Музей атрымаў таксама тэлеграму з найлепшымі пажаданнямі з Амерыкі, дзе зараз жыве дачка Алейнікава — Арына. Прывітальны ліст даслалі Гільдыя акцёраў кіно і Саюз кінематаграфістаў Расіі, які падпісалі Мікіта Міхалкоў і Яўген Жарыкаў.

— Я гляджу ў вашы цёплыя вочы, і ў мяне няма слоў, каб выказаць усё, што я адчуваю, — сказаў жыхарам і гасцям Пятроўскага свята Тарас Алейнікаў. — Таццяна Акунеўская ў сваіх успамінах напісала пра майго бацьку, што калі б у Ісуса Хрыста былі такія вочы, як у Пятра Мартынавіча, то веруючых было б больш. І я ўпэўнены, што карані тут беларускія, бо зараз я нават фізічна адчуваю цеплыню вашых незачарсцвелых душаў.

Ва ўпраўленні культуры Шклоўскага раёна разлічваюць, што дом-музей Пятра Алейнікава ў Крывелі стане новым, паказальным тыпам такой установы: не проста музеем, а яшчэ і культурным цэнтрам вёскі, месцам зносінаў людзей. Тут будуць працаваць міні-бібліятэка і відэасалон. Дарэчы, ад абласной улады раён атрымаў у якасці падарунка новую кінавідэаапаратуру, якую можна выкарыстаць для прагляду фільмаў. Ды і многія жыхары Крывеля ўнеслі свой уклад у арганізацыю дома-музея: акрамя сямейных архіваў, якія прадаставілі Алейнікавы, тут ёсць і куток этнаграфічнай творчасці гэтай мясцовасці. Нягледзячы на сённяшні час, калі людзі небеспадстаўна імкнуцца зберагаць не толькі кожную капейку, але і ўсе старыя рэчы, экспанаты для дома-музея любімага акцёра былі перададзены бясплатна.

Як сказала Галіна Радзівонаўна Лукашэнка, якая брала ўдзел у адкрыцці дома-музея ў Крывелі і якой, па шчыраму прызнанню, вельмі падабаецца гэты акцёр і фільмы з яго ўдзелам, сваю ролю тут адыграла людская памяць: «Гэта след, які пакідаюць у жыцці такія выдатныя людзі. Яны патрэбны, іх памятаюць, цэняць і любяць!»

Сын знакамітага ўраджэнца Крывеля Тарас Пятровіч Алейнікаў працаваў да нядаўняга часу кінааператарам у навукова-папулярным кіно. Зусім нядаўна ён стаў пенсіянерам, а таму, займеўшы шмат вольнага часу, пабяцаў жыхарам бацькавай роднай вёскі прыязджаць як мага часцей. Тарас Пятровіч гаворыць, што гэта яму карысна, бо (не дадуць схлусіць сямейнікі) кожны раз ён прыязджае з Беларусі акрылены. Вельмі верагодна, што наступная сустрэча на Шклоўшчыне адбудзецца акурат праз год — у дзень Пятра і Паўла, на Пятроўскае свята ў цяпер знакамітай вёсцы Крывель.

**Ілона ІВАНОВА.**

**Фота Аляксандра КЛІМА.**

*Шклоўскі раён.*

***ЭКСКЛЮЗІЎ З «ЗОРКАЙ»***

## ВАСІЛЬ ПАНКОЎ МАРЫЦЬ АБ НХЛ, АДНАК НЕ ЛІЧЫЦЬ СЯБЕ АПОШНІМ У СЛАВАКІІ

***«Баця» — так клічуць яго ў камандзе. «Васька», — аклікаюць сябры. Мы звяртаемся да аднаго з лепшых нападаючых хакейнай зборнай Беларусі з павагай: «Прывітанне, Васіль Панкоў!»***

— Прывітанне, «Звязда!»

**— Мы з табой даўно ведаем адзін аднаго, таму давай шчыра: дзе будзеш гуляць далей?**

— Мы з табой і тваёй газетай сябруем даўно, таму таксама шчыра: я яшчэ на адзін год падпісаў кантракт са славацкім клубам «Слован» (мінулагоднім чэмпіёнам Славакіі), куды заўтра я і ад'язджаю разам з сям'ёй. Умовы кантракта, як кажуць, абнародаваць не буду, аднак скажу, што яны не горшыя, чым летась. Магчыма нават, што яны зменяцца на працягу сезона ў лепшы бок.

**— Калі мы ўжо закранулі грашовую тэму, ты можаш сказаць, колькі атрымліваў у тальяцінскай «Ладзе» і чаму наогул сышоў адтуль? Гэта быў прэцэдэнт...**

— Я шчыра кажу: мне прапанавалі добры кантракт у Славакіі, і аб гэтым я папярэдзіў кіраўніцтва тальяцінскага клуба за год да свайго пераходу. Мяне адгаворвалі, я сумняваўся, аднак перайшоў.

**— Усё вырашылі грошы?**

— Ды не, хутчэй прэстыж, магчымасць далейшай кар'еры.

**— Ну колькі ты атрымліваў у Тальяцці? Дзесяць тысячаў «зялёных» у месяц атрымліваў?**

— Ну ты сказаў! Дзесяць тысяч!.. Гэта — міф. І ўзнік ён, магчыма, у многім з-за таго, што хакеістам, пасля таго як яны заваявалі Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў, далі па машыне-«дзевятцы». Мы атрымлівалі нармальныя грошы на жыццё, аднак не такія ўжо вялікія.

**— Бог з імі, з грашыма — не ў іх, увогуле, шчасце. Тым больш, наколькі я ведаю, ты заўсёды меў у жыцці іншыя каштоўнасці і крытэрыі...**

— Я ж не спрачаюся. Сям'ю я заўсёды паважаў і паважаю, калі маю магчымасць, заўсёды наведваю маці, а тым больш — брата Дзімку.

**— Пра яго — асобная размова.**

— Ты ў сэнсе таго, што ён, па сведчаннях некаторых, «рэціраваўся» па «ліпавых» дакументах у Канаду? Адказваю: Дзімка правільна зрабіў, што тады паехаў з Дзюсельдорфа за акіян. І аўтарытэтна заяўляю, што я ведаў аб гэтым. Магчыма там ён і не набыў грошай, аднак вопыт прыдбаў дай Божа.

**— Чаму ж ты не з'ехаў разам з ім?**

— Мне ніхто і не прапаноўваў. Дзіма ж маладзейшы за мяне...

**— На чэмпіянаце свету ў саставе беларускай зборнай «звязка» братоў Панковых глядзелася лепш за астатніх.**

— Шчыра ўдзячны за гэта, і скажу, што мы з Дзімкам і на самай справе лёгка разумелі адзін аднаго на пляцоўцы. Мы ж і па жыцці такія.

**— Дарэчы, ты ў курсе, што наша газета большасцю галасоў рэдакцыі прысудзіла свой прыз твайму брату — нападаючаму зборнай Беларусі і яраслаўскага «Тарпеда» Дзмітрыю Панкову?**

— Я магу толькі павіншаваць брата і шчыра, вельмі шчыра, парадавацца за вашу газету. Ну, а ў мяне яшчэ ўсё наперадзе.

**Алесь СІВЫ.**

***НА КОНКУРС "ЗВЯЗДЫ" І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ***



**Георгій МАРЧУК**

# ПРА ВАСІЛЯ ІЛЬІЧА

***АПАВЯДАННЕ***

***Кніга пісьменніка Георгія Марчука (прадстаўляць якога, здаецца, няма патрэбы) «Хаос» прызнана лепшай кнігай мінулага года. Пакуль яшчэ яе можна набыць у некаторых кнігарнях — у прыватнасці, у «Цэнтральнай» у Мінску. Так што, шаноўныя прыхільнікі беларускай літаратуры, раю не спазніцца...***

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

ЧАСТА ПЫТАЮЦЦА, чаму я ў гаворках, успамінах, творах не згадваю, амаль не ўспамінаю свайго бацьку? Калі прасачыць гісторыю адносінаў бацькоў і дзяцей, то выплывае агульная тэндэнцыя: найчасцей і ахвотней мы ўспамінаем пра маці і нясём яе светлы вобраз да апошніх дзён. У гэтым мноства прычын. Бацька стаіць як бы ўбаку. Маці аддае больш часу выхаванню, песціць, не саромеецца, у адрозненне ад бацькі, паказаць сваю любоў на людзях, ахвотней даруе і малыя і вялікія грахі, бароніць ад бацькавага гневу. Бацька стрымлівае эмоцыі, удзяляючы больш увагі не сям'і, а службе, працы. Маці часцей прымае пакаянне. Бацька ж больш дзёрзка аддаецца (а гэта вымагае часу) сваім відавочным хобі і патаемным страсцям, нібыта выконвае план сям'і па засваенню сямі смяротных грахоў, часам разумеючы згубны шлях, але не маючы сілы што-небудзь змяніць. Кажуць, што яны, мужчыны, больш эгаістычыя, больш самотныя, больш знаходзяцца пад уладай страсцей. Іх слова рэзкае, але трапнае. Па яшчэ адной даўняй завядзёнцы на бацьку ўскладзены абавязак фізічнага выхавання пасам. Больш дасведчаныя псіхааналітыкі ўзаемаадносінаў у сям'і спасылаюцца на Эдыпаў комплекс: маўляў, дзяўчынка падсвядома больш любіць бацьку, а хлопчык — маці. Бацька да таго ж не прывык, каб з яго рабілі ахвяру, калі канешне ён не смяротна хворы. Яго халоднае стаўленне да дзяцей нават узвышае ягоную асобу, ураўнаважвае празмерную пяшчоту, усёдаравальнасць, мяккасць і лагоднасць маці. У рэшце рэшт, каб шукаць апраўданне, можна, абапіраючыся на тэорыю і практыку, знайсці мноства самых розных і нечаканых прычын. Тут знойдуць сабе месца і бытавыя трагедыі і любоўныя драмы. Хто яго ведае, дзе мяжа ўсёдаравальнасці. Здавалася б, даруй усё, абдымі, пацалуй і кроч побач — так мала часу адведзена на гэтыя сумесныя крокі па жыцці. Аднак жа не... Як часта не атрымоўваецца. На тое і жыццё, што ў сферы эмоцый яно не паддаецца рэгуляванню, раўнамернаму размеркаванню паміж усімі на працяглы час. І як бы я ні круціўся вакол пытання, якое мне часта задаюць, а ўсё ж мушу адказаць (можа і сабе), бо варта ў маім сталым ужо ўзросце, пакуль яшчэ ходзяць па зямлі рэдкія аднагодкі майго бацькі, пакуль яшчэ землякі памятаюць яго, а чытачы не згубілі цікавасці да маёй творчасці, яй-бо варта пашукаць у памяці вытокі і вынікі гэтай маёй наўмыснай няўвагі да роднага з родных.

Не стану хлусіць: ён прыходзіць ва ўспамінах, праўда, заўсёды ў сувязі з кімсьці альбо з чымсьці, але ж і тады, калі бываю на радзіме, сярод знаёмых у сям'і, падчас інтэрв'ю па радыё, тэлебачанні няма звычайнай простай ахвоты падзяліцца гэтымі ўспамінамі.

А я мог бы ім ганарыцца. Быў ён роста вышэй сярэдняга — моцны целам і духам. Праўда, з часам, як пачаў вельмі піць, сіла мышцаў ператварылася ў сваё падабенства. За кошт упэўненай, разважлівай хады яшчэ складвалася ўражанне, што чалавек ладна сшыты, а бліжэй бачны былі ацёкі рук і ног. У дзяцінстве я яго не ведаў, пачалі зрэдку сустракацца, як бы прыглядваючыся адзін да аднаго, калі яму было паўсотні гадоў. Ён ажаніўся з маёй маці насуперак волі яе бацькоў. Надта ж чамусьці мой дзед і бабуля ўпарціліся. Паколькі я не мог быць сведкам у сорак шостым годзе, а маці не паспела расказаць мне ўсёй праўды — рана памерла, я не бяруся выносіць прысуд дзеду і бабе. Як кажуць старыя манахі, за ўсё трэба дзякаваць Богу: за тое, што знайшоў і за тое, што страціў. Бо не ты адзін куеш свой лёс. Такое адчуванне, што ён як бы даказаў маім бабулі і дзеду, што для яго няма нічога немажлівага. Насуперак усім, узяў і ажаніўся. Прымайце яго, карміце, даглядайце. Гонар, годнасць... Я мог бы ганарыцца і такой рысай яго характару. Аднак (зноў пакуль здагадкі) пасля жаніцьбы, ён, як пасля перамогі, згубіў у нейкім сэнсе цікавасць і да маладой жонкі. Яму і пазней, калі маці трагічна загінула, патрэбна было ўвесь час каму-небудзь даказваць такую сваю перавагу, сілу, спрыт, хітрасць. Калі ўжо піць, дык як ён. Яму ў мястэчку і мянушку далі трапную — «Бутэлька». Усіх мог перапіць. Цягнецца дахаты, ледзь на нагах трымаецца, а не ўпадзе пад плот, не будзе мачыцца ў людным месцы. І такой ягонай фанабэрыяй можна было б ганарыцца. А ўжо майстар у гандлі, як яўрэй які ці араб. Вось будуць стаяць на маскоўскім рынку таварышы яго, сусед, таксама гандляваць насеннем кветак — асноўны заробак для беззямельных давыдгарадчукоў, дык не ж... натаргуе за дзень усё адно ўдвая больш за напарнікаў. Шанцавала, халера, як чорту.

Я мог бы ім выхваляцца. А то не! У Дзень Перамогі апранаў сіні фрэнч з медалямі і ордэнамі. Біў ворага, за тое і ўзнагародзілі. А калі пайшоў часова ў інспекцыю рыбнагляду, пablажак нікому не даваў: ні суседу, ні сваяку. Вызвалілі з работы — не ведаю, з якой прычыны, можа за п'янкі, а можа грошы за штрафы сабе прысвоіў, дык жа не паў духам, не хаваўся ў хаце, не саромеўся выходзіць на шпацыр у цэнтр мястэчка. Падбухторваў каго-небудзь з прыяцеляў, перакульвалі ў цянёчку адну паўлітроўку, другую, трэцюю. Здароўе патроху краў алкаголь, але ўсё па-ранейшаму быў самы моцны ў руках. Не было ахвотнікаў з ім мерацца сілаю рук. Усё адно прыцісне да стала, хоць цвярозы, хоць п'яны. Прайграўшы, мала таго, што мусіў фундаваць, ставіць бутэльку гарэлкі, яшчэ трываў кпіны і непрыхаваную іронію. Ох, гэтая іронія часта перарастала ў здзек. Яна ж, іронія, і яго самога ратавала. Паводка знесла яшчэ не старую хату. Праз тры дні, так пажадала другая жонка, ад якой меў трох дзяцей, пакінуў родны Давыд-Гарадок, паехаў да дачкі ў Полацк і там купіў на апошнія грошы, што адкладваў на чорны дзень, палову мураванкі. Калі мы з ім пачалі зрэдку за чаркаю гарэлкі нарэшце ўсталёўваць сякія-такія больш прыяцельскія, а не свойскія адносіны, ён мяне не павучаў, не выхоўваў, не камандаваў. Памятаю толькі словы, якія паўтараў: «Якія маеш грошы — такое і жыццё, а калі ў цябе няма грошай, дык якое тады жыццё». Прадбачлівы быў, умеў зазірнуць у дзень заўтрашні.

А то не ганарыцца ім, скажа нехта. Чаму б не. Нягледзячы на хворыя ногі, зноў у каторы раз павёз насенне кветак на маскоўскі рынак. Такая настырнасць, вера ва ўласныя сілы. Чаму б не ганарыцца. Я мог бы ганарыцца, бо і ў першапрастольнай беспрытульныя і бамжы ішлі да Васіля Ільіча прасіць грошай на харчы і піва. Даваў. Калі ў мястэчку нашым на базары выбіраў мяса, рыбу, заўсёды браў усё лепшае. Май форс. Купец па натуры, ён аднак ніколі на сваім давыд-гарадоцкім базары не прадаваў бульбу, агародніну, ягады. Тое было для яго, сталічнага купца, ганьбай. Прагульваўся на стадыён, да чайнай, на рыбалку, у святы да царквы. У храм не хадзіў. Стаяў з аднагодкамі ля брамы, ішоў па гарадку упэўненай хадою, размашыста, часта пасярэдзіне вуліцы, і кожны, хто ехаў на роварьі ці на падводзе, мусіў яго аб'язджаць...

Я мог бы ім ганарыцца. Можа было б прыемна пачуць услед: «Вунь пайшоў сын «Бутэлькі». Але ж... але ж.. ніколі ў жыцці не было нават дробнага жадання пахваліцца ім перад аднакласнікамі, потым у інстытуце. Мог бы ганарыцца, але ж... адзін, усяго толькі адзін факт з жыцця, мёртвай рукою скоўваў мае слабыя намеры. Ён, мой бацька, не дачакаўся майго прыходу на свет, кінуў маю маці дзеля другой жанчыны. Два месяцы заставалася да радзін. О, як мая кволенькая, невялічкага расточку, худая маці баялася нараджаць. Побач не было любімага чалавека. Не хочацца ім ганарыцца... здаецца, няма чым... сорамна ганарыцца... і не буду.

Няхай Бог даруе мне тое, што я не ў сілах дараваць. Ляжыць у родным мястэчку ў зямлі маці, ляжыць далёка на поўначы ў зямлі Васіль Ільіч... Даўно тое ўсё было. А рана ўсё не загойваецца і не загойваецца. Пра іншых судзіць можа так і не маю права, а пра свайго скажу, што хацеў.

## 36,6°

# СЯБРЫ СТРОЙНАГА ЦЕЛА

**Нямецкія вучоныя, абагульніўшы шматвекавы вопыт народнай медыцыны і апошнія дасягненні сучаснай навукі, прыйшлі да цвёрдай высновы, што ў прыродзе існуе як мінімум дзесятак метадаў і сродкаў, якія робяць фігуру стройнай. Прычым усе гэтыя сродкі зусім бясшкодныя, бо заснаваны на натуральнай нармалізацыі і паскарэнні абмену рэчываў — поўнае цела добраахвотна і радасна скідвае з сябе лішнія кілаграмы.**

### ХАЛОДНАЯ ВАДА

Цудоўная здольнасць халоднай вады «спальваць» лішнія калорыі, якія паступілі ў арганізм з ежай, вядома ўжо даўно. Шырокаму прымяненню халоднай вады перашкаджае толькі залішняя боязь суб'ектаў, якія сталі на цярністы шлях пахудзення. Боязь зусім дарэмная, калі павялічваць час прыёму халоднага душу паступова.

Пры прыёме душу ці абліванні халоднай вадой пажадана прытрымлівацца наступнай выпрабаванай паслядоўнасці: правая нага — левая нага — правая рука — левая рука — жывот — грудзі — спіна.

### СУХАЯ ШЧОТКА

Гэты сродак пахудзення даступны літаральна ўсім. Механічнае расціранне цела сухой шчоткай, з'яўляючыся адным з відаў масажу, актывізуе тлушчавы абмен рэчываў. Расціраць цела рэкамендуецца інтэнсіўна, але са слабым націскам па некалькі разоў на дзень, прычым у той жа паслядоўнасці, што і пры прыёме халоднага душу.

### ЯЧМЕНЬ

Нядаўна амерыканскія медыкі эксперыментальна даказалі, што старадаўні народны сродак («ячная вада»), вядомы ў Германіі як «герстэн васэр», сапраўды вельмі прыкметна актывізуе абмен рэчываў. А высокае ўтрыманне ў «ячневай вадзе» калію садзейнічае хуткаму вываду з арганізма назбіраных шлакаў.

«Ячневую ваду» вельмі лёгка прыгатаваць у хатніх умовах: 200 г прарослых зародкаў ячменю высыпаць у 1 літр вады і давесці на слабым агні да кіпення ў пасудзіне з закрытай накрыўкай. Даць настояцца на працягу паўгадзіны. Зліць вадкасць праз тонкае сіта і астудзіць. Штодня піць па шклянцы. Для смаку можна змешваць з фруктовымі сокамі.

### ТАПІНАМБУР

Біялагічна актыўныя рэчывы, якія ўтрымліваюцца ў тапінамбуры, аблягчаюць пераправаўліванне тлушчаў і дапамагаюць арганізму знаходзіць баланс паміж голадам і сытасцю. Нямецкія дыетолагі называюць тапінамбур «тормазам апетыту». Бо «земляная груша» да таго ж яшчэ і дабратворна ўплывае на перыстальтыку кішэчніка, яе рэкамендуюць не толькі пры атлусценні, але і пры запорах.

### ВОЦАТ

Неабходна асобна адзначыць, што лекавымі ўласцівасцямі валодае толькі натуральны фруктовы воцат, прычым самым карысным лічыцца прыгатаваны з цэлых яблыкаў. «Мікстуру для пахудзення» прыгатаваць вельмі проста: 2 ст. лыжкі натуральнага воцату размяшаць у шклянцы вады хатняй тэмпературы і дадаць 2 чайныя лыжкі мёду. Ужываць нашча перад снеданнем.

### КРАПІВА

Уласцівасць крапівы садзейнічаць зніжэнню вагі была прызнана афіцыйнай медыцынай яшчэ ў 50-х гадах нашага стагоддзя. Пякучая навобмацак расліна не толькі вельмі карысная, але і смачная ў любым выглядзе: бацвінне, салаты, адвары, сок. Акрамя таго, крапіва з'яўляецца цудоўным пастаўшчыком разнастайных жыццёва важных вітамінаў. Найбольшую каштоўнасць уяўляюць маладыя парасткі.

### СУХОЕ ВІНО

Калі французскія вучоныя вырашылі высветліць, чаму іх суайчыннікі, нягледзячы на багатую ежу, у сярэднім «танчэйшыя» за амерыканцаў, якія масава мучаць сябе дыетамі, то прыйшлі да высновы, што прычына такога дзіўнага становішча спраў — у традыцыйна ўжываемым французамі сухім віне. Шкляначка-другая віна перад абедам і вячэрай замаруджваюць паступленне вугляводаў у кроў і прадаўжаюць час пераправаўлівання ежы ў страўніку.

### СЫРОВАТКА

У прынцыпе пахудзенню садзейнічае ўжыванне ў ежу ўсіх нятлустых малочных прадуктаў. Перавага сыроваткі ў тым, што няма неабходнасці абмяжоўваць сябе чыста малочнай дыетай. Дастаткова на працягу некалькіх тыдняў выпіваць па шклянцы сыроваткі перад ядой, што не толькі ўзмоцніць абмен рэчываў, але і забяспечыць ачыстку кішэчніка ад назбіраных у ім таксінаў.

### СТАРАННАЕ ПЕРАЖОЎВАННЕ ЕЖЫ

Існуе абсалютна бясспрэчная заканамернасць: чым хутчэй чалавек есць, часта глытаючы кавалкі зусім неразжаванай ежы, тым большую яе колькасць ён з'ядае. Справа ў тым, што страўнік пачынае сігналізаваць аб насычэнні цэнтральнай нервовай сістэме толькі праз 15 хвілін пасля таго, як ежа ў яго паступіць. Старанна жаваць вельмі мэтазгодна і з другога пункту гледжання: калі ежа змочваецца слінай, то лягчэй «слізгае» па страўнікава-кішачнаму тракту, падвяргаючыся больш поўнаму біяхімічнаму расшчапленню.

**Падрыхтаваў Юрый СКАРАХОДАЎ.**
**«АиФ-Здоровье».**

*СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ*

## Крыжаванка

**Па гарызанталях:** 1. Рака ў Архангельскай вобласці Расіі. 4. Памяшканне для захоўвання розных тавараў, матэрыялаў. 10. Густое салодкае рэчыва — прадукт няпоўнага ператварэння крухмалу ў цукар. 11. Выдатны, агульна прызнаны пісьменнік, дзеяч навукі, мастацтва. 13. Вядомы нямецкі кампазітар, піяніст і дырыжор. 15. Лекавая расліна сямейства казяльцовых; гарыцвет. 16. Партовы горад у Іспаніі. 19. Дзесяціногі кароткахвосты марскі рак. 21. Дарожная скрынка для рэчаў, багажу пасажыра. 22. Грыбная нарасць на дрэве — чорнага або чорна-бурага колеру. 23. Дзеючая асоба ў рамане І. С. Тургенева «Бацькі і дзеці». 24. Вадаплаўная дзікая птушка сямейства качыных. 28. Завостраны кусок дрэва або металу, якім расколваюць палена. 30. Возера ў Венгрыі. 31. Беларускі паэт, аўтар зборнікаў «Вайстрыце зброю», «Каб ведалі». 35. Духмяны і сакавіты плод трапічнай расліны. 36. Прамысловая рыба, якая водзіцца ў паўночных морах. 37. Фруктовае дрэва. 39. Нацыянальная японская вопратка. 40. Нерухомая частка электрарухавіка. 41. Плаўны парны бальны танец. 42. Баявая партызанская група.

**Па вертыкалях:** 2. Эпоха пазнейшага каменнага веку. 3. Лісцевае дрэва. 5. Від цвёрдага паліва. 6. Беларускі кампазітар, аўтар оперы «Андрэй Касценя», кантаты «Над ракой Арэсай». 7. Невялікі заліў у рацэ або возеры; завадзь. 8. Раённы цэнтр у Віцебскай вобласці. 9. Даўней: металічныя латы на грудзі і спіну для засцярогі ад зброі. 12. Кароткі літаратурны твор алегарычнага зместу з павучальнай канцоўкай. 14. Пярэдняя галоўная частка будынка, якая выходзіць на вуліцу. 17. Сталіца краіны ў Паўднёвай Амерыцы. 18. Пагадненне, умова аб узаемных абавязацельствах. 20. Паўночнаамерыканскі дзікі бык атраду парнакапытных. 22. Беларускі пісьменнік, аўтар аповесці «Свінапас». 25. Размер заработнай платы. 26. Артылерыйская гармата з кароткім ствалом для навяснойстральбы. 27. Белая тканіна для дэманстрацыі фільмаў, дыяпазітываў. 29. Дзяржава на поўдні Еўропы. 32. Рака ў Якуціі, якая ўпадае ў мора Лапцевых. 33. Сельскагаспадарчая прылада. 34. Вершаваны твор асобай формы на легендарную ці гістарычную тэму. 37. Рэчыва, якое ўжываецца як прыправа да ежы. 38. Пустазелле сямейства складанакветных.

*г. Мінск.* **Склаў Аляксандр САНКЕВІЧ.**



## Крыптаграма

Літары з ключавых слоў, значэнні якіх прыводзяцца ва ўмове, запішыце ў адпаведным парадку пад лічбамі дадзеных радкоў. Потым, упісаўшы іх у клеткі крыптаграмы адпаведна лікам, прачытайце вядомую прымаўку.

а) 1-2-3-4-5-3-6-7 — індыйскі мастак-рэаліст.

б) 8-2-9-10-11-12-2 — валокны адной з асноўных тэхнічных культур.

в) 13-2-14-15-16 — аднаразовы прыплод некаторых жывёл.

г) 17-2-18-19-20 — прафесіянальны наезднік на конных скачках.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*

## Галаваломка

Угледзьцеся ўважліва ў малюнак і адшукайце ключык, з дапамогай якога вы прачытаеце слушную прыказку.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**
*Клецкі раён.*




## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (11 ліпеня). Па гарызанталях:** 5. Фасон. 6. Цалік. 9. Трэст. 11. Карона. 12. Індэкс. 15. Зман. 17. Саветаў. 18. Куба. 19. Гіпноз. 20. Зязюля. 24. Капа. 25. Скварка. 26. Член. 29. Балота. 30. Галеча. 31. Брама. 33. Вілія. 34. Сайра. **Па вертыкалях:** 1. Чарэнь. 2. «Мост». 3. Жарт. 4. Півоня. 7. Рэльеф. 8. Карма. 10. Скіба. 13. Калонка. 14. Салянка. 16. Наіна. 18. Калач. 21. Радар. 22. Капкан. 23. Цешча. 27. Італія. 28. Фанера. 31. Блін. 32. Агат.

**Галаваломка (11 ліпеня).** Ключык да яе разгадкі такі: у цэнтры малюнка стрэлкамі паказаны напрамкі, па якіх трэба чытаць літары — спачатку у ромбах, потым па акружнасці. Прымаўка такая чытаецца: «Хто вучыцца змоладу, не ведае на старасці голаду».

**Паўслова ёсць, паўслова — дадайце (11 ліпеня).** У гэтай галаваломцы — васемнаццаць слоў: балада, барана, пароша, таката, палуда, рагожа, ліхтар, мішура, ювелір, хватка, вулкан, футляр, пасека, банкір, тасьма, казеін, канава, ганьба.

**Крыптаграма (11 ліпеня).** Ключавыя словы ў ёй: стужка, шво, дзеяч, ліпа. У клетках малюнка — такое народнае выказванне: «Якое слова скажаш, такое ў адказ пачуеш».

## РЭШТА

# Авена чакае тыдзень удалы, Блізнят — не зусім...

### *УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ*

Калі КАЗЯРОГ не знаходзіцца ў водпуску, то аб'ём нагрузак на працы як мінімум падвоіцца. Разам з тым рознагалоссі з партнёрамі будуць паспяхова вырашаны. Вам спатрэбіцца кансультацыя кваліфікаванага эксперта, адновіцца нейкая перарваная старая карысная сувязь. У сям'і ўзнікне спрэчка адносна выхавання дзяцей. Самаадчуванне выдатнае.

Як відаць, ВАДАЛЕЯ чакае далёкая паездка. Ідэальны дзень старту — аўторак. Гэты ж дзень аптымальны для пачатку рэкламнай кампаніі і заключэння кантракта. Прыйдзецца выбіраць паміж славай і грашамі. Аддайце перавагу першай. Адбудзецца нечаканае знаёмства з прывабнай персонай процілеглага полу.

У многіх РЫБ тыдзень пачнецца з кароткай іншагародняй паездкі. Чакаецца сутыкненне са зламыснікам. Не падпісвайце на працягу гэтых сямі дзён ніякіх дакументаў, каб пазбегнуць значных фінансавых страт. Аб'ект вашага даўняга, але, здавалася б, безнадзейнага абажання адкажа ўзаемнасцю.

АВЕНА чакае вельмі ўдалы тыдзень. Асабліва спрыяльна планеты размешчаны на вашым фінансавым небасхіле. Нават гаротнік-бомж атрымае нечаканыя грошы. Асобы ва ўзросце да 35 гадоў зробяць паспяховая пачынанні ў бізнесе. Муж і жонка, якія апынуліся на грані скасавання шлюбу, прымуць мудрае рашэнне «пачаць усё спачатку». Абавязкова разам наведайце храм Гасподні.

ЦЯЛЬЦУ давядзецца вырашаць мноства праблем. Дзелавое партнёрства можа зайсці ў тупік рознагалоссяў. Чакаемыя грошы, хутчэй за ўсё, вы не атрымаеце. Сітуацыя выйдзе з-пад кантролю, калі паддадзіцеся негатыўным эмоцыям. Захоўвайце розум халодным. Рызыкуеце незаслужана пакрыўдзіць блізкага сябра ці родзіча. Адносіны палюбоўнікаў апускаюцца да кропкі замярзання.

БЛІЗНЯТЫ наўрад ці пазбегнуць стрэсу і нервовасці. Прыміце гэта як данасць і не спрабуйце пераламаць ход абставінаў — да канца тыдня справы выправяцца са змяненнем канфігурацыі планет на вашым астралагічным небасхіле. Хатнія праблемы запатрабуюць вашай дадатковай увагі. Пастарайцеся пазбегнуць канфлікту і прыслухайцеся да довадаў другога боку.

РАКУ проціпаказана любое пачынанне, у поспеху якога ёсць хоць маленькае сумненне. Цяпер вам не час рызыкаваць. Калі ёсць такая магчымасць, вазьміце тыднёвы водпуск. Фінансавае становішча стабільнае, можна зрабіць даўно запланаваную пакупку. Даме трэба крыху абмежаваць апетыт — вы яўна набіраеце лішнія кілаграмы. Адмоўцеся ад салодкага.

Для ЛЬВА наступае ідэальны перыяд новых пачынанняў. Ваш лепшы дзень — 21 ліпеня, адчуйце сябе сапраўдным любімчыкам фартуны. Служачы атрымае магчымасць адкрыць незалежную справу. Далёкая паездка будзе вельмі паспяховай. Палітычны дзеяч апынецца ў цэнтры грамадскай увагі. Магчыма, абвострыцца вечная праблема бацькоў і дзяцей».

Большасць ДЗЕЎ напэўна атрымаюць нечаканыя грошы. Калі такое адбудзецца, абавязкова дайце на хлеб жабрачцы. Адбудзецца карыснае знаёмства з нейкай уплывовай персонай. Шанцаванне па ўсіх накірунках гарантавана журналістам і выдаўцам. Разам з тым не выключана сутыкненне меркаванняў. Здаецца, вы перажываеце сексуальны выбух.

ШАЛІ рызыкуюць здзейсніць нейкі імпульсіўны ўчынак з непрадказальнымі вынікамі. Панядзелак у гэтых адносінах — самы небяспечны дзень. Не трэба прымаць колькі-небудзь важныя рашэнні ў гэты дзень. Не выключана маёмасная спрэчка. Будзьце максімальна дыпламатычным. У канцы тыдня чакаецца іскрамётная любоўная прыгода. Не звязвайце з ёй асаблівых надзей.

СКАРПІЁНАМ авалодае гуллівы бесклапотны настрой. Рызыкуеце парушыць важныя дагаворныя абавязацельствы і пацярпець фінансавыя страты. Прыслухайцеся да парады дзелавога партнёра процілеглага полу. Пазбягайце на гэтым тыдні любых спрэчак, іх вынікі для вас будуць цяжкімі. Атрымаеце паведамленне, якое надоўга сагрэе душу.

СТРАЛЬЦА чакае напружаны тыдзень. Магчымы перамены, якія вызначаць вашу бліжэйшую будучыню. З'явіцца магчымасць значна пашырыць сферу дзейнасці. Планеты настроены асабліва добразычліва да энергічнай прадпрымальнай дамы. Вам гарантаваны поспех у асабістых справах і абставінах.

**Сяргей БУЛАНЦАЎ, кар. ІТАР—ТАСС.**
*г. Дэлі.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.755. Індэкс 63850.
Зак. № 4272.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12